# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 23 (902) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 10 ЧЭРВЕНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.


## Першыя на сенажаці

Першымі ў Гайнаўскім павеце пачалі сенакосы працаўнікі сушарні сена ў Клейніках. Клейніцкая сушарня 3 гады таму назад прыняла ў свае ўладанне звыш 200 га сенажаці. Яна цяпер ужо па-сучаснаму загаспадарана і дае высокі ўраджай.

Праца пры ўборцы сена тут поўнасцю механізавана. У час нашай прысутнасці працавалі там два спецыяльныя ўборачныя агрэгаты, якія касілі траву і адразу раздрабнялі яе на сечку. Затым трактарам адпраўлялі ў сушарню.

У Клейніках рашылі сабраць у гэтым годзе 3 пакосы сена.

Адным з гэтых агрэгатаў кіруе трактарыст Васіль Грыгарук, які ў Клейніцкай сушарні працуе ўжо трэці год, гэта значыць ад пачатку яе існавання.

Тэкст і фота **В. Рудчыка**








По ініцыятыве павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы адбылася тут рабочая сустрэча, прысвечаная культурна-грамадскай дзейнасці гайнаўскага аддзела БГКТ. У нарадзе прынялі ўдзел I сакратар ПК ПАРП Людвік Бартосяк, сакратар прапаганды Мікалай Карпюк, старшыня Прэзідыума ПРН Анатоль Гінштт, старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік, галоўны рэдактар „Нівы" Георгі Валкавыцкі, а таксама члены праўлення аддзела БГКТ у Гайнаўцы.

Інфармацыю аб дзейнасці таварыства зрабіў старшыня аддзела Аляксандр Іванюк. Гайнаўскі аддзел, які налічвае больш 2600 членаў і 71 гурткоў, за апошні час дабіўся добрых вынікаў у сваёй дзейнасці. Асабліва гэта відавочна ў галіне мастацкага аматарскага руху. Самадзейнікі Гайнаўскага павету занялі перадавыя месцы на цэнтральных аглядах „Беларуская песня — 73" і ў аглядзе тэатральных калектываў. Праводзяцца шматлікія мерапрыемствы культурна-асветнага характару: фэстыны, лекцыі, сустрэчы, урачыстыя сходы. Такая шырокая дзейнасць была б немагчымай, калі б не добрае супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі і установамі. Усе культурна-асветныя мерапрыемствы плануюцца разам з аддзелам асветы і культуры. Фінансавую дапамогу ў культурна-асветнай дзейнасці атрымлівае аддзел з боку ГС-аў і сельгасгурткоў.

Сёлетняя праца гурткоў БГКТ будзе праходзіць пад лозунгам святкавання XXX гадавіны Войска Польскага. Запланаваны сустрэчы моладзі з ветэранамі вайны і ўдзельнікамі партызанскіх баёў на Гайнаўскай зямлі. Для гурткоў БГКТ будзе распісаны конкурс на найлепшую насцегазету аб Войску Польскім. Аддзел БГКТ будзе арганізаваць вечарыны, прысвечаныя знамянальнай гадавіне, уключыцца ў агляд „Песня салдацкая і партызанская".

**(Працяг на стар. 4)**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"






Аграномы, кіраўнікі сельскагаспадарчай службы гмінных праўленняў, намеснікі старшынь прэзідыумаў ПРН-аў, загадчыкі сельскагаспадарчымі аддзеламі, прадстаўнікі прадпрыемстваў і установаў, якія абслугоўваюць вёску, — усе разам сабраліся з цэлага Беластоцкага ваяводства, каб супольна абмеркаваць, як найлепш, як найхутчэй правесці сенакос і жніво ды паспяхова выканаць шмат іншых неадкладных заданняў.

Асноўнае ядро адказных кадраў, ад якіх залежыць поспех або няўдача нашых планаў знайшлося многа сялян, якія па-даўнейшаму абыякава аднесліся да абавязку прымянення мінеральных угнаенняў. Для прыкладу, у гміне Крынкі на Сакольшчыне аж 842 гаспадары не выканалі сваіх планаў. Сярод гэтых з божай ласкі „гаспадароў" знайшоўся нават бацька кіраўніка сельскагаспадарчай службы з Шудзялава. Старшыня Міхалюк тут жа выклікаў гэтага кіраўніка, каб ён усім прысутным растлумачыў сваю сельскагаспадарчую „палітыку". Стаў гэты аграном за трыбунай і, заікаючыся, сказаў, што ён не ведае, чаму на яго бацькоўскай гаспадарцы не прымяняюцца мінеральныя ўгнаенні. Цікава, як такі аграном можа пераконваць іншых сялян у карысцях, якія прыносіць хімічная стымуліроўка сельскагаспадарчай вытворчасці. Кожны гаспадар адкажа яму: ты найперш навучы свайго бацьку.

— Не я адзін такі, — сказаў ён, нібы на сваё апраўданне.

Другая справа: хімічная прапалка пустазелля ў пасевах. Яна запланавана больш-менш на амаль 200 тысячах гактараў, з ча-

і спадзяванняў. Ідзе гутарка, аб тым, што цяпер найважнейшае ў сельскай гаспадарцы Беласточчыны.

Што найважнейшае?

Найбольш грунтоўны адказ на гэта пытанне стараўся даць у сваім выступленні загадчык сельскагаспадарчым аддзелам Прэзідыума ВРН мгр Рэдлінскі. Першая справа — гэта прымяненне мінеральных угнаенняў. Як вядома, было ўстаноўлена, што гадавы план па рэалізацыі заданняў у гэтай галіне Беласточчына выканае да 15 мая. Гэта ў асноўным удалося. Але ў паасобных гмінах і вёсках

**(Працяг на стар. 4)**




■ 25 мая беластоцкі павятовы аддзел БГКТ супольна з інспектаратам асветы ў памяшканні ГП арганізавалі агляд беларускай песні сярод вучняў пачатковых школ павету. На агляд прыехалі 28 асоб. Першае месца сярод салістаў заняла Аліна Кузьміцкая з Гарадка, другое — Галіна Языкава з Гарадка, трэцяе — Пеця Ваўранюк з Веек. Сярод дуэтаў першае месца прызнана дуэту з Гарадка — Галіне Языкавай і Тэрэсе Зугай, другое — Ірыне Грыка і Пятру Ваўранюку з Веек, трэцяе — сёстрам Тамары і Антаніне Ільяшук з Рыбалаў. Сярод тэрцэтаў журы не прызнала першага месца. Другое месца заняў тэрцэт з Веек: Ліля Грыка, Ірэна Салавей і Аля Грыка. Два трэція месцы занялі вучні з Падазеран і Грыбаўцоў.

■ 25 мая адбыліся на Бельшчыне сходы ў гуртках БГКТ з прадстаўнікамі ГП і аддзела, на якіх былі абмеркаваны актуальныя справы гурткоў і іх далейшая дзейнасць. У Орлі ў сходзе гуртка прыняў удзел член ГП БГКТ намеснік дырэктара ЗУС Уладзімір Юзвюк і член Галоўнай рэвізійнай камісіі ГП БГКТ Васіль Антыпюк. У Трашчотках на сход гуртка прыбыў старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік і член рэвізійнай камісіі аддзела Пётр Ананюк. У Пасынках прысутнічалі на сходзе гуртка старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі Міхась Хмялеўскі і сакратар бельскага аддзела Анна Лазавік. Тут адбыліся перавыбары праўлення гуртка. Старшынёй гуртка цяпер з'яўляецца Валянціна Грыгарук, сакратаром — Ліда Малаховіч і скарбнікам — Аляксандр Васільчук. На сходзе было прынята ў рады БГКТ 9 чалавек.

■ 26 мая ў памяшканні ГП БГКТ харавая група Лужыцкай часці ВОП выступіла з канцэртам. Прымала яна ўдзел у IV фестывалі салдацкіх тэатраў паэзіі ў Беластоку. Пасля канцэрта адбылося сяброўскае спатканне з радай клуба і членамі хору гарадскога аддзела БГКТ.

■ 27 мая адбыўся фінальны конкурс на беларускую песню сярод школьнай моладзі, арганізаваны кураторыяй і ГП БГКТ. Аб ім будзе шырэй напісана ў наступным нумары „Нівы".

■ 24 мая ГП БГКТ наведала дэлегацыя Міністэрства аховы прыроды з Савецкай Беларусі, у склад якой уваходзілі: Валянціна Гурковіч — начальнік цэнтральнай лабараторыі па справах аховы асяроддзя, Марыя Місячонка — галоўны бактэрыёлаг цэнтральнай лабараторыі, Пётр Смірноў — галоўны гідрабіёлаг цэнтральнай лабараторыі і Сяргей Дзямідаў — начальнік раённай лабараторыі аховы асяроддзя ў Гродне. Савецкія спецыялісты разам са сваімі польскімі калегамі праводзілі доследы чысціні вады ў верхнім адрэзку рэчкі Нарва, дзе ў хуткім часе будзе будавацца вялікае водасховішча. Госці цікавіліся дзейнасцю БГКТ, аб якой расказаў ім старшыня ГП Мікалай Самоцік. (мх)

# ◇ Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### ГРЭЦЫЯ — РЭСПУБЛІКАЙ

Выступаючы з прамовай 1 чэрвеня г.г., прэм'ер Грэцыі Пападапуляс заявіў, што ўрад вырашыў праклямаваць краіну рэспублікай і звергнуў караля Канстанціна. Пападапуляс сказаў, што адгэтуль прымае на сябе абавязкі прэзідэнта. На працягу двух месяцаў плануецца правесці рэферэндум у справе гэтых пастаноў урада. Палітычныя назіральнікі лічаць, што прычынай гэтых рашэнняў стаў нядаўна выкрыты загавар афіцэраў грэчаскага ваенна-марскога флоту.

Кароль Канстанцін зараз знаходзіцца ў Рыме ў добраахвотнай ссылцы ад часу няўданага перавароту, які прабаваў зрабіць у снежні 1947 года.

### ВАЖНЫЯ РАШЭННІ

Удзельнікі X (юбілейнай) Асамблеі кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін-удзельніц ААА аднадушна адобрылі тэксты агульнапалітычнай дэкларацыі ў сувязі з 10-годдзем арганізацыі афрыканскага адзінства і заявы аб супрацоўніцтве, развіцці і эканамічнай незалежнасці.

У агульнапалітычнай дэкларацыі пацвярджаецца прыхільнасць незалежных афрыканскіх дзяржаў прынцыпам адзінства, узаемнай салідарнасці і супрацоўніцтва, іх вернасць барацьбе за поўнае вызваленне Афрыкі ад рэштак каланіялізму і фашызму.

### АДНАЎЛЕННЕ ДЫПЛАМАТЫЧНЫХ СУАДНОСІН

Англія і Сірыя аднавілі дыпламатычныя адносіны на ўзроўні пасольстваў. Як вядома, Сірыя парвала дыпламатычныя адносіны з Вялікабрытаніяй у чэрвені 1967 года ў часе ізраільскай агрэсіі супраць арабскіх краін.

### НАСТАЎНІКІ МАЛАЙЗІІ

Прафесія настаўніка здаўна лічылася ў Малайзіі і іншых краінах Паўднёва-Усходняй Азіі выключна мужчынскім заняткам. Аднак цяпер становішча змянілася. Паводле афіцыйных даных, у Малайзіі з 70 тысяч школьных настаўнікаў 39 працэнтаў складаюць жанчыны.

### ЭКІПАЖЫ КАСМІЧНЫХ КАРАБЛЁЎ

Крыху больш як два гады аддзяляюць нас ад дня, калі адбудзецца сустрэча на арбіце савецкага касмічнага карабля „Саюз“ і амерыканскага касмічнага карабля „Апалон“ і пачнецца іх сумесны палёт. У ходзе яго пройдуць праверку ў дзеянні сумяшчальныя сістэмы стыкоўкі караблёў дзвюх краін, будуць праведзены разнастайныя навуковыя і навукова-тэхнічныя эксперыменты.

У СССР і ЗША разгарнулася шырокая падрыхтоўка да сумеснага палёту. Многія тэхнічныя і арганізацыйныя праблемы ўжо вырашаны. Шэраг іншых — у стадыі стараннага вывучэння. Каб увянчалася поспехам вялікая праграма намечаных работ у космасе, касманаўтаў чакаюць працяглыя інтэнсіўныя трэніроўкі. А вось склады савецкіх экіпажаў на асноўны і рэзервовыя караблі: першы экіпаж — А. Ляонаў і В. Кубасаў, другі экіпаж — А. Філіпчанка і Н. Рукавішнікаў, трэці экіпаж — Ю. Раманенка і А. Іваненкаў. (ак)



## БССР

### ЮБІЛЕЙ ТЭАТРА

Дзяржаўнаму ордэна Леніна акадэмічнаму вялікаму тэатру оперы і балету БССР — 40 гадоў. Вось некаторыя памятныя старонкі летапісу гэтага заслужанага тэатра:

25 мая 1933 г. Першы спектакль. Мінчане слухаюць оперу „Кармен“.

1939 г. Упершыню на сцэне тэатра пастаўлены нацыянальныя оперы: „Міхась Падгорны“ Я. Цікоцкага, „Кветка шчасця“ А. Туранкова, „У пушчах Палесся“ А. Багатырова і балет „Салавей“ М. Крошнера.

Лета 1940 г. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Беларускі тэатр оперы і балету ўзнагароджаны вышэйшай урадавай узнагародай — ордэнам Леніна.

28 снежня 1944 г. У вызваленым Мінску паказана прэм'ера оперы Я. Цікоцкага „Алеся“.

За 40 гадоў на сцэне тэатра пастаўлена 70 опер і 37 балетаў. Яго калектыў выступаў у 24 замежных краінах.

### ПІСЬМЕННІКІ — КАНДЫДАТЫ Ў ДЭПУТАТЫ

У Саюзе пісьменнікаў БССР адбыўся перадвыбарчы сход па вылучэнню кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў працоўных.

Кандыдатам у дэпутаты Мінскага гарадскога Савета вылучаны Кастусь Кірэенка.

Кандыдатамі ў дэпутаты Ленінскага раённага Савета горада Мінска — Алена Васілевіч і Аркадзь Марціновіч.

Калектыў рабочых і служачых Клецкага піваварнага завода сваім кандыдатам у дэпутаты Мінскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных назваў Аляксея Кулакоўскага.

На сваім перадвыбарным сходзе хлебаробы калгаса імя Чарняхоўскага Карэліцкага раёна вылучылі кандыдатам у дэпутаты Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных вядомага пісьменніка Васіля Быкава.

### ПАМЯЦІ ІЛЫ ГУРСКАГА

Ілья Гурскі, вядомы беларускі пісьменнік, быў сынам селяніна-бедняка. Ён рана пачаў працоўнае жыццё — спачатку пастухом, а затым качагарам на Абухоўскім заводзе ў Ленінградзе. Будучы чырвонагвардзейцам, у гады грамадзянскай вайны ўступіў у камуністычную партыю.

Яго творы аб станаўленні рабочага класа Беларусі, аб бессмяротным подзвігу народа ў барацьбе з фашызмам і іншыя кнігі шырока вядомы ў Савецкім Саюзе. Ілья Гурскі памёр 14 жніўня 1972 года.

Савет Міністраў Беларускай ССР пастанавіў прысвяціць яго імя Магільнянскай сярэдняй агульнаадукацыйнай школе Уздзенскага раёна Мінскай вобласці. Адначасова даручана Мінскаму гарвыканкому сумесна з Саюзам пісьменнікаў БССР устанавіць мемарыяльную дошку на доме № 17/30 на вуліцы Янкі Купалы ў Мінску, у якім жыў І. Гурскі. Адной з вуліц Мінска будзе прысвоена яго імя. На магіле пісьменніка вырашана ўстанавіць надмагільны помнік. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### ТАВАРЫШ Э. ГЕРЭК У АПОЛЬСКІМ ВАЯВОДСТВЕ

І сакратар ЦК Э. Герэк наведаў Апольскае ваяводства. Пабываў тут на рамонтным прадпрыемстве чыгуначнага абсталявання (ЗНТК), сустрэўся з уладамі ваяводства і наведаў некалькі сельскагаспадарчых цэнтраў і мясцовасцей.

### ДЗЕНЬ ДЗІЦЯЦІ

У сувязі з Міжнародным днём дзіцяці старшыня Рады Дзяржавы Г. Яблонскі прыняў у Бельведэры групу настаўнікаў і дзяцей.

### „ДОЛЬНА ОДРА“

У Шчэцінскім ваяводстве будуецца вялікая электрастанцыя „Дольна Одра“. Яе магутнасць будзе мець 1 600 мегаватаў — восем энергетычных блокаў, кожны па 200 мегаватаў. Будова закончыцца, дзякуючы рабочаму калектыву, на паўгода раней, чым прадбачваў план.

### ПАРЛАМЕНТАРНАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ З ЧЭХАСЛАВАКІІ...

...пабывала ў Польшчы. Яна вяла размовы з польскімі пасламі. Чэхаславацкую дэлегацыю прынялі І сакратар ЦК, старшыня Рады Дзяржавы і прэм'ер ПНР.

### ПОЛЬСКАЯ ХІМІЯ

Сёлетнія „Дні хіміка“ мелі асаблівы каларыт. Ва ўсёй краіне ідзе вялікая стаўка на хімію і развіццё розных яе галін. Хімія акрэслівае цяпер ступень нашага прагрэсу. Цэнтральнае святкаванне „Дзён хіміка“ адбылося ў Ольштыне, дзе выступіў прэм'ер П. Ярашэвіч.

### ПОМНІК ДЗЕЦЯМ

У Мендзылессі, якое ляжыць у границах вялікай Варшавы, быў паложаны краевугольны камень для будовы помніка-шпіталя ў гонар дзяцей, загінуўшых у час II сусветнай вайны. На ўрачыстасці выступіў старшыня Рады Дзяржавы Г. Яблонскі.

### СЕСІЯ ПАН

У Варшаве адбылася агульная XXXVI сесія Польскай акадэміі навук. Галоўнай яе тэмай былі справы польскай навукі ўчора і сёння, а таксама ўплыў навукі на асвету. З галоўным дакладам выступіў сакратар ПАН прафесар Ян Качмарэк.

### АБАРОННЫЯ ПРАКТЫКАВАННІ „КРАЙ — 73“

Згодна з планам Камітэта абароны краіны, адбыліся ў апошні час у цэлай краіне абаронныя практыкаванні „Край-73“, у якім удзельнічалі палітычна-грамадскія органы, органы дзяржаўнай адміністрацыі і нацыянальнай гаспадаркі, аддзелы самаабароны, а таксама штабы і некаторыя аддзяленні Людовага Войска Польскага. Кіраваў імі прэм'ер Пётр Ярашэвіч.

### ПОЛЬСКАЯ МОЛАДЗЬ ДА X ФЕСТЫВАЛЮ Ў БЕРЛІНЕ

Польская моладзь рыхтуецца да X фестывалю моладзі і студэнтаў у Берліне. Польская дэлегацыя будзе налічваць 800 асоб. (вл)

**Варшаўскі аддзел БГКТ выказвае глыбокае спачуванне свайму актыўнаму дзеячу ПАЎЛУ ДЭКАЙЛУ з прычыны смерці маці**



## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВК ПАРП

29 мая адбыўся пленум Ваяводскага камітэта партыі. Абмяркоўваліся пытанні аб паляпшэнні працы гандлю і аб лепшым забеспячэнні насельніцтва атракцыйнымі таварамі.

У працы пленума прымалі ўдзел міністр унутранага гандлю і паслуг Э. Шнайдэр, І намеснік кіраўніка эканамічнага аддзела ЦК ПАРП Э. Карэлюс, намеснікі членаў ЦК С. Багуцкі і Ул. Лотыш, старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха, а таксама запрошаныя сакратары падставовых партарганізацый і дырэктары гандлёвых устаноў.

З уступным словам аб праблемах таваараабароту ў нашым ваяводстве выступіў І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі. Ён падкрэсліў, што гандаль з'яўляецца ў нашым ваяводстве адной з найважнейшых гаспадарчых і грамадскіх праблем: па-першае, таму, што разам з дынамічным ростам даходаў насельніцтва неабходна ўтрымоўваць рынкавую раўнавагу; па-другое, развіццё турызму патрабуе добрай працы гандлю; па-трэцяе, гандаль — гэта люстэрка ўсёй нашай гаспадаркі, ён сведчыць аб тым, як спраўна мы ажыццяўляем праграму паляпшэння дабрабыту працоўных.

З дакладам выступіў сакратар ВК ПАРП М. Недзведзь. У дакладзе, а затым і ў дыскусіі, гаварылася аб магчымасцях і рэзервах паляпшэння працы гандлю: аб новых гандлёвых плошчах, аб лепшым супрацоўніцтве гандлю з прамысловасцю, аб большай аператыўнасці гандлёўцаў, аб патрэбах вясковага гандлю.

Разглядаліся таксама на пленарным пасяджэнні арганізацыйныя справы. Па прапанове З. Куроўскага пленум аднагалосна выбраў II сакратаром ВК ПАРП тав. Ул. Юшкевіча, які да гэтага часу выконваў абавязкі арганізацыйнага сакратара ВК. Зацверджаны былі таксама асабовыя склады праблемных камісій ВК ПАРП.

### СУСТРЭЧЫ З МІНІСТРАМ

2 чэрвеня ў Беластоку адбылася сустрэча настаўнікаў з міністрам асветы і выхавання Е. Кубэрскім. 248 настаўнікаў атрымалі ўзнагароды міністра асветы і выхавання.

У той жа дзень міністр Е. Кубэрскі сустрэўся з настаўнікамі і моладдзю падставовых школ.

### СВЯТА ДЗЯЦЕЙ

Першыя дні чэрвеня былі ў нашым ваяводстве вялікім святам дзетвары. Адбылося шмат розных мерапрыемстваў. Кульмінацыйным пунктам гэтага свята быў злёт гарцэраў, урачыстае прысваенне Беластоцкай харугві ЗГП імя генерала В. Врублеўскага і адкрыццё II беластоцкай алімпіяды школьнікаў. На ўрачыстасці, якая адбылася 3 чэрвеня на стадыёне імя Я. Кусацінскага ў Беластоку, прысутнічалі кіраўнік арганізацыйнага аддзела ЦК З. Жандароўскі, міністр асветы і выхавання Е. Кубэрскі, І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі, начальнік ЗГП С. Багдановіч, намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч, куратар Э. Крынскі і шмат іншых гасцей. Пасля афіцыйнай часткі ўрачыстасці адбыўся парад гарцэрскіх дэлегацый на злёт і выступленні маладых спартсменаў. (яч)




**Niedziela 10.VI.**

7.40 Program dnia. 7.45 TV Kurs Rolniczy. 8.20 „Przypominamy, radzimy”. 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie”. 9.00 TELERANEK. 10.20 „Antena”. 10.35 „W starym kinie” — „Wczesne komiedie Chaplina” cz. II. 11.30 Koncert Niedzielny z Warszawy. 12.30 Dziennik. 12.45 „W obiektywie”. 13.15 „Przemiany”. 13.45 Dla dzieci: J. Porazińska — „Kichuś majstra Lepigliny” odc. II. 14.25 Losowanie Totolotka. 14.40 „Spotkanie w Łazienkach”. 15.10 Gra Polska Kapela pod dyr. Feliksa Dzierżanowskiego. 15.40 „Cukier krzepi — chemia lepiej” — teleturniej. 16.40 PKF. 16.55 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej Zw. Radziecki — Anglia — II połowa. 17.50 „Pokochać wiatr” — program pop. naukowy cz. I. 18.20 „Tele-Echo”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Święto Trybuny Robotniczej” — program estradowy. 21.25 „Wyprawa na Anglię” — film ang. („Eżbieta, królowa Anglii”) odc. V. 23.00 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 11.VI.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 15.20 i 23.05 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec”. 17.30 „Echo stadionu”. 17.55 TV Kurier Olsztyński. 18.10 „Oferty”. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: J. Anouilh — „Molierówna”. 21.45 „Pryzmat”. 22.15 Dziennik. 22.30 „Myśliwi w muzyce i anegdocie”.

**Wtorek 12.VI.**

10.00 „Wyprawa na Anglię” — film ang. („Elżbieta, królowa Anglii”) odc. V. 11.35 „Pamir — nowa ojczyzna szynszyli” — film dok. TV Radz. 15.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 „Szansa w kwitnącej jabłoni”. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Chłopcy” — film TVP. 21.40 „Spotkanie z pisarzem — Arturem Sandauerem”. 22.10 „SAT”. 22.25 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Środa 13.VI.**

9.25 „Chłopcy” — film TVP. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Zabytki naszej kultury”. 11.25 „Dacia opus 1300” — film dok. TV Rum. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 14.00 „Wybieramy zawód”. 15.20 i 23.25 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Polonezem dookoła świata” odc. I — „Wywrotki”. 17.10 Dla dzieci: „Małe kino”. 17.35 „Informacje, towary, propozycje”. 17.55 „Sylwetki X Muzy” — Andrzej Szalawski. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Perspektywy techniki” — rep. z Międzynarodowych Targów Poznańskich. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Święty” — film ang. 21.05 Program publ. 21.35 „Od Odetty do Odetty” — program IX („Balet”). 22.15 Dziennik. 22.45 Międzynarodowy Dzień Olimpijczyka (Berlin). Wiadomości sportowe.

**Czwartek 14.VI.**

10.40 „Święty” — film ang. 14.00 Matematyka w szkole: „Pogłębianie i utrwalanie materiału nauczania w ćwiczeniach”. 15.20 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem”. 17.45 PKF. 17.55 „Hej od Lublina” („Z ludowej szkatuły”) — program folklorystyczny. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Rodzina”. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Marderca jest w domu” — film fab. węg. 21.50 „Złoty klucz” — rep. z Międzynarodowych Targów Poznańskich. 22.30 „Ekspres nr 28”. 23.00 Dziennik. 23.15 Wiadomości sportowe.

**Piątek 15.VI.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Są wśród Was”. 10.25 „Morderca jest w domu” — film fab. węg. 12.00 „Szczyrbskie wesele” — film dok. czechosł. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.20 i 22.30 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora”. 17.25 „Nie tylko dla pań”. 17.50 „Muzyczne wizerunki miasta” — GNIEZNO. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Być i widzieć” — rep. film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Kochane stare gruchoty” — program rozr. ang. 20.40 „Panorama”. 21.20 Teatr TV: A. Świętochowski — „Błazen”. 22.05 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Sobota 16.VI.**

10.00 „Indiański wojownik” — film fab. USA. 14.05 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 14.40 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.10 Program dnia. 15.15 Program I proponuje. 15.35 „Spotkanie z przyrodą”. 16.00 Telereklama. 16.15 Dziennik. 16.30 Międzynarodowe Zawody Hippiczne CSJO — Puchar Narodów. 18.15 Program publicystyczny. 18.35 „Pegaz”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 Festiwal Piosenki Radzieckiej w Zielonej Górze. Koncert Przyjaźni. 21.55 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.15 „Indiański wojownik” — film fab. USA.




**Piątek, 8 czerwca**

8.15 Konkurs piosenkarski. 10.00 Szkoła szachowa. 10.30 Filmy dokument. 13.40 Program dnia. 13.45 Film seryjny. 16.50 Filmy animowane dla dzieci. 17.30 Wszechzwiązkowy konkurs piosenkarski. Transmisja z Pałacu Sportu. 20.00 Czas. 20.30 Mistrzostwa Europy w boksie.

**Sobota, 9 czerwca**

7.00 Program dnia. 8.00 Film dokument. 9.45 Turniej muzyczny. 11.00 Film fab. 12.30 Przegląd międzynarodowy. 12.45 Filmy animowane. 14.00 Święto Poezji. 15.00 W świecie zwierząt. 16.10 Film dokument. 17.40 Film seryjny. I część. 19.00 Czas. 19.30 Mistrzostwa Europy w boksie. Finał.

**Niedziela, 10 czerwca**

7.00 Program dnia. 8.00 Dla żołnierzy. 9.15 Koncert. 9.45 Film fab. 11.50 Kiosk muzyczny. 12.30 Spotkania literackie. 13.30 Tańczcie z nami. 14.10 Klub filmowy. 15.10 Piosenki. 15.55 Piłka nożna. ZSRR — Anglia. 17.50 Film seryjny. II część. 19.00 Czas. 20.45 Program sportowy.

Этнаграфічнае акенца



# У пушчанскім спакоі

Мястэчка Белавежа паволі, але настойліва змяняе свой выгляд. На левым баку вуліцы Стачок закладваецца вадаправод і высцілаецца тратуар, на вуліцы Трапінка (якая чароўная назва!) ужо пракладзены вадаправод і будзе палажаны тратуар. Кожны гаспадар і асабліва гаспадыні клапоцяцца аб чысціні сваіх панадворкаў, аб кветках у агародчыках. З асаблівай дбайнасцю выцацкалі свае дамы і панадворкі тыя з белавежцаў, у якіх знаходзяцца прыватныя кватэры для турыстаў. Навокал іх усё ззяе чысцінёй і парадкам. Каляровыя сцены дамоў і платоў, пышнае квецце перад імі вабіць вока кожнага прыбыўшага, запрашае: „Калі ласка да нас, тут ты адпачнеш у цішы, спакою і прыгажосці, закаштуеш чароўнасцей пушчы і абязвольваючай раскошы жыцця на ўзлонні прыроды“.

З кожным годам у Белавежы паўстае ўсё больш новых мураваных дамоў, прасторных і светлых. Яны высяцца сваімі стромкімі дахамі па-над колішнім драўляным будаўніцтвам. А яно, быццам прадчуваючы свой нядоўгі ўжо век, прысела ў засені дрэў-старэчаў. У кожнай дробязі яго адчуваецца ўладанне навакольнай пушчы. На дахах з пачарнеўшай і патрэсканай драніцы блішчаць мяккія падушачкі ярка-зялёнага імху. На зрубах сцен застылі пацеркі смалы, нібы памутнеўшыя слёзы па беззваротна адышоўшай маладосці. Толькі карункавая разьба шчытоў, падстрэшнікаў і абліцовак вокан сведчаць аб непаўторным мастацтве безыменных мастакоў-разбяроў. Пакасіўшыеся дзверы ганкаў і салідныя брамы не расхінаюць ім свае гасцінныя створкі, бо драўляная капліца, атуленая на могілках даўнімі крыжамі ды веццем клёнаў і бяроз, сцеражэ іх вечны, пушчанскі спакой.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара










## Беларускія кнігі

У „Доме кнігі“ ў Гайнаўцы, вул. 1 Мая 37, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Загадкі, 1972, стар. 448, цана 8 зл. 70 гр.

Чарговы том з вялікага выдавецкага цыкла „Беларуская народная творчасць“, які — неабходна гэта падкрэсліць — хуткімі тэмпамі і сістэматычна рэалізуе Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. Гэты том выйшаў пад рэдакцыяй А. С. Фядосіка, змяшчае ён каля 3 500 беларускіх народных загадак.

Машара Міхась, Вершы, 1971, стар. 416, цана 14 зл. 90 гр.

Выбраныя вершы, напісаныя ў розныя гады вядомым беларускім пісьменнікам старэйшага пакалення, які пачынаў свой творчы шлях у Заходняй Беларусі ў даваенны час. Том сапраўды высокай якасці паэзіі з'яўляецца адначасова сведкам шляху барацьбы, які прайшла Заходняя Беларусь у міжваенны перыяд і ў час апошняй вайны.

Брыль Янка, Вітраж, 1972, стар. 200, цана 4 зл. 30 гр.

Гэты зборнік адкрывае яшчэ адзін бок шырокага дыяпазону творчых магчымасцей папулярнага сучаснага беларускага празаіка. У выданні знаходзім апавяданні, нарысы і мініяцюры. Асабліва гэтыя апошнія захапляюць сваёй глыбінёй думкі і дасканаласцю формы. У цэнтры ўвагі пісьменніка знаходзіцца прыгажосць душэўнага свету чалавека працы, чароўнасць беларускай прыроды і паэзія дзяцінства.

Кляўко Генадзь, Каб не сурочыць, 1971, стар. 104, цана 2 зл. 40 гр.

Вельмі прыемны томік сакавітага гумару. Знаходзім у ім вершы, фельетоны, мініяцюры. Добрая рэч для адпачынку і нават на сцэну!

Кнігарня ў Гайнаўцы ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем (з далучэннем рахункаў, калі гэтага патрабуе пакупнік). Запатрабаванні кіруйце па адрасу: „Dom Książki”, Hajnówka, ul. 1-go Maja 37. (мг)

## Мала, але цікава

# САВЕЦКА – НЯМЕЦКІЯ ПІСЬМЕННІКІ

У шматнацыянальнай савецкай сям'і жыве і паспяхова развіваецца літаратура савецкіх немцаў.

У радах савецка-нямецкіх пісьменнікаў працуюць шматлікія вопытныя майстры паэзіі і прозы — Д. Лёвен, Р. Жакмен, Э. Кончак, І. Грубер, Д. Вагнер, А. Рэймген, Ф. Больгер, Д. Гольман, І. Варкенцін і іншыя. За апошнія гады гэтыя рады папоўніліся таленавітымі літаратарамі, сярод іх — Э. Гюнтэр, Р. Вебер, В. Гердт, Нэлі Вакер, Лія Франк, А. Прахт, Ольга Рышаві, Г. Генке, Г. Кемпф, А. Бек, Э. Катценштэйн і шмат іншых.

Як паведамляе „Літаратурная газета“, нядаўна прайшоў у Маскве трэці Агульнасаюзны семінар савецкіх нямецкіх празаікаў і паэтаў. У ім прынялі ўдзел каля 40 літаратараў, якія жывуць у розных рэспубліках, вобласцях і краях краіны і пішуць на нямецкай мове. Прыйшлі яны на гэту сустрэчу з новымі працамі, апублікаванымі як у перыёдыцы, якая выходзіць на нямецкай мове, — у газетах „Нойес Лебен“ (Масква), „Фройндшафт“ (Цэлінаград), „Ротэ Фане“ (Слаўгарад), так і паасобнымі кнігамі. У 1970 годзе выдавецтва „Прагрэс“ выпусціла калектыўны зборнік савецка-нямецкіх паэтаў і празаікаў „Ён заўсёды з намі“, прысвечаны У. Леніну. У гэтым жа выдавецтве ў мінулым годзе выйшаў тоўсты том вершаў на нямецкай мове — „Ва мне жыве надзея“ (Альманах савецка-нямецкай лірыкі), кніга апавяданняў „Учора і сёння“. Увагі заслугоўвае літаратурны дэбют маладога таленавітага лірыка Роберта Вебера (Масква) — кніга вершаў „Абяцанне“.

Выдавецтва „Савецкі пісьменнік“ працуе над падрыхтоўкай анталогіі савецка-нямецкай паэзіі на рускай мове.

Ці Вы ўжо выпісалі „Ніву“?

## ЗАПЛАТА Ў ВАШЫХ УЧЫНКАХ

# ПЦК КЛІЧА!

ПЦК — адна з найстарэйшых дабрачынных арганізацый у краіне. Ёй звыш 100 год.

Галоўная ідэя ПЦК — дапамагчы кожнаму, хто дапамогі патрабуе: усім нешчаслівым, хворым, калекам, старым і г.д.

Дзейнасць ПЦК трапляе на ўдзячны грунт асабліва сярод школьнікаў. Палавіна ўсіх школьных членаў ПЦК ў Беластоцкім ваяводстве прыпадае на вёску. Трэба таксама сказаць, што і патрэбы на вёсцы ў ПЦК-оўскай дзейнасці вельмі вялікія. Колькі тут людзей адзінокіх, хворых, старых без апекі! Ідзіце, школьнікі, да такіх людзей, яны патрабуюць вашай дапамогі і цёплага слова.

Возьмем такі прыклад: захварэў стары чалавек, завезлі яго ў бальніцу, падлячылі і выпісалі. А ў яго хаце няма ўмоў для хворага чалавека. Сам ён не можа нічога зрабіць, часта нават не нап'ецца вады. А за вакном на вуліцы шуміць жыццё. Людзі здаровыя працуюць, а школьнікі гуляюць у мяч. І ніхто не ўспомніць пра старога дзядзьку-суседа. Ці так павінна быць?

ПЦК імкнецца цяпер, каб кожны адзінокі і хворы чалавек меў пастаянную апеку сястры пагатоўя ПЦК. ПЦК ужо некалькі год арганізуе курсы для такіх сясцёр. Яны працягваюцца пару тыдняў, і жанчыны на іх вучацца, як паступаць з хворым у хаце. На жаль, людзі не горнуцца да гэтых курсаў. Вось лікі за 1972 год для Беластоцкага ваяводства: толькі 443 асобы былі ахоплены апекай сясцёр пагатоўя ПЦК, у тым ліку толькі 50 асоб на вёсцы. А сясцёр пагатоўя, якія выконваюць цяжкую, але патрэбную працу, было толькі 178. Яны працавалі многія гадзіны, у будні і святы, вечарамі і начамі, але іх усё замала. Ахвотных на курсы сясцёр пагатоўя (гэта праца платная) няма. Няма людзей, якія хацелі б апекавацца іншымі людзьмі. Пакуль сам чалавек здаровы, не разумее ён, што і яго чакае старасць і хваробы...

Сястрой пагатоўя ПЦК можа быць кожная жанчына, якая хацела б свой вольны ад працы час аддаць тым, хто церпіць. Няважна, якую працу яна выконвае. У кожнай працы знойдзецца крыху вольнага часу.

Ад імя ПЦК звяртаемся да нашых уражлівых чытачоў з вёсак: няхай ніхто ў вашай вёсцы не застанецца без апекі, няхай кожны, хто ў бядзе, знойдзе ў вашай асобе прыяцеля і брата. Робячы дабро, не чакайце заплаты. Заплата ў вашых учынках. (вл)

## На спартыўнай ніве

# Спаборнічаюць рабочыя нараўскіх прадпрыемстваў

Нядаўна адбыліся спартыўныя спаборніцтвы на кубак начальніка гміны паміж рабочымі кааператыва шматгалінных паслуг (СУВ), ПОМ, ГС і настаўнікамі з Нараўскай гміны ў Гайнаўскім павеце. У спаборніцтвах прынялі ўдзел 93 асобы, у тым ліку 15 дзяўчат. Спаборніцтвы адбыліся ў такіх галінах, як бег, скокі, кіданне ядра, сяткоўка і перацягванне каната. Спаборніцтвы глядзела многа жыхараў з Нарвы і навакольных вёсак. Сярод жанчын аж у трох галінах спорту: бег, скок у вышыню і кіданне ядра, — перамагла Ніна Мінько (ПОМ). У скоках у даўжыню найлепшы вынік атрымала Валянціна Герман (ГС). У сяткоўцы зборная жанчын з ПОМ перамагла зборную з ГС. Сярод мужчын у бегу на 100 метраў і ў скоках найлепшым быў Ян Асташэўскі (ПОМ). У бегу на 1200 метраў перамог Уладзімір Шварц (неаб'яднаны). У агульнай пунктацыі першае месца і кубак начальніка гміны ў Нарве заваявалі спартсмены з ПОМ, другое месца занялі спартсмены з ГС, трэцяе — настаўнікі і чацвёртае — спартсмены СУВ. (ця)

(Працяг са стар. 1)

## Сустрэча ў павятовым камітэце ПАРП



*Сустрэча ў павятовым камітэце ПАРП у Гайнаўцы.*

Аднак ёсць і пэўныя недахопы. Нягледзячы на вялікую колькасць членаў арганізацыі, усё яшчэ выступае нізкі паказчык аплачвання членскіх складчын. Аддзел не наладзіў шырокага супрацоўніцтва з павятовым праўленнем ЗСМВ. І не таму, што ёсць якія-небудзь перашкоды ў гэтым напрамку, але таму, што не было запрапанавана адпаведных форм гэтага супрацоўніцтва.

Член праўлення аддзела Мікалай Суліма звярнуў увагу на падпіску „Нівы". Сказаў ён, што гэта адно з асноўных заданняў таварыства рэалізуецца паспяхова. Зараз у Гайнаўскім павеце 2450 падпісчыкаў „Нівы", а ў бліжэйшым часе іх колькасць перавысіць 2500.

— Асноўнае заданне таварыства, — сказаў Л. Бартосяк, — гэта папулярызацыя праграмы VI з'езду і XIV ваяводскай партыйнай канферэнцыі. Плануючы дзейнасць павятовай арганізацыі БГКТ, трэба мець заўсёды на ўвазе вынікі, якіх хочам дасягнуць. Галоўнае — гэта папулярызацыя добрай працы і яе герояў — людзей. Дзеля гэтага трэба паказаць вартасці павету, каб яго жыхары ганарыліся тым, што жывуць іменна ў гэтым павеце, а гэта ж усё мабілізуе да добрай працы.

Таварыш Л. Бартосяк падзякаваў дзеячам БГКТ за іх плённую працу і сцвердзіў, што зараз у Гайнаўскім павеце існуюць усе ўмовы для дзейнасці таварыства.

Тэкст і фота **А. Карпюка**




(Працяг са стар. 1)

го аж 175 тысяч прыпадае на збожжавыя культуры. Праполка праводзіцца гербіцыдамі. Гэта сродкі, шкодныя для здароўя, і таму апырскванне палёў даверана спецыяльным брыгадам сельскагаспадарчых гурткоў, якія забяспечаны адпаведнай апаратурай. Аднак яе выкарыстанне ў месяцы маі было далёка недастатковым. Да 20 мая хімбрыгады выканалі ў ваяводстве няцэлых 8 працэнтаў планаваных заданняў, а ў Гайнаўскім, Беластоцкім, Кольненскім і Сувальскім паветах — яшчэ на многа менш. Кантрольная паездка кіруючых работнікаў Прэзідыума ВРН паказала, што, для прыкладу, у Міхалове на 6 апырсквальнікаў працавалі толькі два, у Звярках стаялі ўсе яшчэ на базе.

У чэрвені апырсквальнікі трэба пасляць на бульбяныя плантацыі, каб ратаваць іх ад стонкі. Задача не малая, бо датычыць больш-менш 170 тыс. гектараў. Хімічная барацьба з пустазеллем і стонкай можа запэўніць нам намнога вышэйшы ўраджай, і таму нельга да гэтай справы адносіцца абыякава.

А тым часам на сенажацях ужо грукочуць касілкі. Да 20 мая было скошана 1200 гектараў сенажаці. Датычыць гэта ў першую чаргу жывёлагадоўчага камбіната Візна і некаторых іншых дзяржаўных гаспадарак. Большасць аднаасобных гаспадароў усё яшчэ чакае да „святога Яна".

— Гэта яўнае марнатраўства, — гаварыў загадчык Рэдлінскі. — На нядаўна загаспадараных і засеяных высакаякаснай травой сенажацях абавязкова трэба сабраць т р ы п а к о с ы. **Першы ў маі, другі — перад жнівом у ліпені, трэці — перад капаннем бульбы — у верасні.**

Гэта неабходна, каб забяспечыць кармавую базу для развіваючайся паспяхова жывёлагадоўлі. Калі б праліўныя дажджы, як гэта было ў мінулым годзе, не дазволілі хутка высушыць сена, асабліва з другога і трэцяга пакосаў, трэба з яго рабіць сілас.

Пасля сенакосаў, як вядома, пачынаецца жніво. Тут найважнейшай справай з'яўляецца талковае выкарыстанне жніўных машын, якія знаходзяцца ў распараджэнні сельскагаспадарчых гурткоў, спулдзельняў прадукцыйных і ПГР-аў. У гэтым годзе касіць збожжа на палях Беласточчыны будзе звыш 120 камбайнаў. Трэба, каб яны былі ў поўнай тэхнічнай спраўнасці.

У гэтым годзе не ствараюць спецыяльных жніўных штабаў. **Жніво трэба лічыць як нармальную з'яву ў жыцці вёскі, а не як нейкую стыхію.** За паспяховае яго правядзенне персанальна адказваюць людзі на адпаведных пасадах, якія за сваю працу атрымліваюць грошы. Нельга іх выручаць у прафесіянальных абавязках.

З думкай пра высокі ўраджай рыхтуемся тады да сёлетніх дажынкавых урачыстасцей. Гэтаму пытанню перш за ўсё была прысвечана сустрэча афіцэраў сельскай гаспадаркі.

**М. Нурэцкі**







Быў цяжкі 1942 год. Фашызм агнём і смерцю заліваў Еўропу. Працягвалася мужная абарона Ленінграда і Сталінграда.

У той час 70-тысячная Польская Армія пад камандаваннем генерала Андэрса стаяла ў далёкім тылу, на савецкай зямлі. Узнікла яна пасля дагавору між лонданскім урадам генерала Сікорскага і ўрадам СССР. Папаўненнем гэтага дагавору была вайсковая ўмова з 14 жніўня 1941 года. Пункт сёмы гэтай умовы апавяшчаў:

*«Польскія ваенныя часці будуць (...) выкарыстаны згодна з аперацыйнымі планамі Галоўнага камандавання СССР».*

Абазначала гэта, што польскае войска супольна з Чырвонай Арміяй будзе змагацца на ўсходнім фронце.

Лонданскія палітыкі вышэй барацьбы з гітлераўскім захопнікам ставілі свае класавыя апетыты. На савецкай зямлі, у куйбышаўскім пасольстве польскага эміграцыйнага ўрада рыхтавалі яны розныя варыянты сваёй будучыні. План А прадбачваў: *«СССР, як колас на гліняных нагах, рассыплецца пад ударамі нямецкай ваеннай тэхнікі. Тады ўспыхне ўнутраная контррэвалюцыя. На гэты момант трэба захаваць гатовыя да барацьбы ўласныя ўзброеныя сілы».*

План Б прадбачваў: *«Саветы і Германія ўзаемна выкрывавяцца да апошняй кроплі. Зусім патрацяць сілы. А тады саюзнікі... Англія і Амерыка... і наша стотысячная армія на падтрымку... Дык будзе Польшча ад мора да мора...»*

І таму вывелі гэтую армію ў Іран.

Тады перанялі ініцыятыву ў свае рукі польскія камуністы, якія рознымі шляхамі трапілі ў Савецкі Саюз. Яны рашылі абараніць у вачах грамадзян СССР добрае імя Польшчы. Найбольш аўтарытэтныя сярод іх — Альфрэд Лямпэ, член даваеннага ЦК Камуністычнай партыі Польшчы, і Ванда Васілеўская, вядомая пісьменніца.

*«Альфрэд Лямпэ — гэта ідэйная бусола, гэта чалавек, які патрапіць мысліць далёкасяжнымі палітычнымі перспектывамі, якія выбягаюць за сённяшнія, як жа цяжкія дні».*

Такім яго бачыла ў сакавіку 1942 года ў савецкім горадзе Куйбышаў Яніна Бранеўская — таксама польская камуністка, якая працавала ў рэдакцыі польскай газеты „Nowe Widnokręgi" („Новыя кругагляды"). Газета пайшла ў далёкія куткі вялікай савецкай зямлі. Аўтары артыкулаў і рэпартажаў паясняюць крывадушніцтва лонданскай палітыкі, паказваюць крывавыя змаганні савецкіх народаў, пішуць аб сталінградскай перамозе.

У рэдакцыю пачынаюць надыходзіць лісты ад чытачоў. Іх усё больш. Яніна Бранеўская дакладна рэгіструе прозвішчы і адрасы. У гэтых лістах найчасцей паўтараецца адно патрабаванне: **палякі хочуць змагацца поруч з чырвонаармейцамі.** Адзін з карэспандэнтаў, які падпісаўся **Станіслаў Ліманові ч**, канчаючы свой доўгі ліст, сцвярджаў:

**„Мы хочам польскага войска ў СССР! Хочам змагацца плячо к плячу з Чырвонай Арміяй за вялікія мэты чалавецтва, за свабоду і незалежнасць нашай Радзімы. Хочам прыняць дзейсны ўдзел у Яе вызваленні. Мы ўзносім заклік за Польскае Войска ў СССР".**

Ліст паявіўся ў газеце 5 сакавіка. Сапраўдным яго аўтарам быў цяперашні генерал **Зыгмунт Берлінг.** Не, не камуніст, а прафесіянальны вайсковец, удзельнік вераснёвай кампаніі. Такіх, асабліва радавых і малодшых афіцэраў заставалася яшчэ там многа, тысячы.

А варожыя адносіны лонданскага ўрада да Савецкага Саюза паглыбляюцца. 25 красавіка 1943 года дыпламатычныя адносіны між гэтымі ўрадамі спыняюцца.

28 красавіка 1943 года па Маскоўскаму радыё выступае Ванда Васілеўская.

*«...У Польшчу, у родны край, да бацькоўскіх хат вядзе адзін шлях — шлях барацьбы і працы для перамогі, а найкарацейшая дарога — адсюль, з Савецкага Саюза. (...) Саюз польскіх патрыётаў даўжэйшы ўжо час стараецца стварыць на тэрыторыі Савецкага Саюза польскія вайсковыя атрады. Верым, што ў бліжэйшым часе плячо к плячу з Чырвонай Арміяй пад польскім сцягам і ў польскіх атрадах зможам са зброяй у руках прадэманстраваць нашу любоў да Польшчы, наша права да Польшчы».*

Гэтыя словы аказаліся крылатымі. Вечарам гэтага ж дня на маскоўскай кватэры Ванды Васілеўскай сабраліся: **Альфрэд Лямпэ, Віктар Грош, Путрамент, Ендрыхоўскі, Яніна Бранеўская;** прыбылі вайскоўцы — **Берлінг і Букаемскі.** Бранеўская занатавала:

*«Вечар, які закончыўся на світанні. Проста шалёная ноч, у час якой мы ўрэшце даведаліся: РАШЭННЕ ПРЫНЯТА».* Пасля ўсім вядомы голас Левітана апавяшчаў на цэлы свет аб згодзе ўрада СССР на фарміраванне «Польскай дывізіі імя Тадэўша Касцюшкі».

9 і 10 чэрвеня 1943 года ў прыгожай, прасторнай зале Дома Чырвонай Арміі **адбыўся першы з'езд Саюза польскіх патрыётаў у СССР. Яго старшынёю выбрана была Ванда Васілеўская.** З'езд паказаў вобраз будучай Польшчы — народнай, дэмакратычнай, свабоднай і аднолькава для ўсіх справядлівай.

**Віктар Рудчык**



*Ванда Васілеўская.*




## Нашаніўская пара

ЛІТАРАТУРНАЯ ПУБЛІЦЫСТЫКА — ЧАСТКА III

Апрача артыкулаў, прысвечаных агульным літаратурным праблемам, у „Нашай ніве" паявілася нямала публікацый, звязаных з паасобнымі пісьменнікамі, з асобнымі зборнікамі або творамі. Даволі часта „Наша ніва" інфармавала чытачоў аб кнігах, якія знаходзіліся ў продажы, аб інсцэнізацыі п'ес беларускіх пісьменнікаў, а таксама аб гадавінах нараджэння або смерці многіх польскіх, рускіх і ўкраінскіх паэтаў і празаікаў. Сярод беларускіх аўтараў крытыкі „Нашай нівы" найчасцей займаліся Янкам Купалам. Досыць грунтоўна быў аналізаваны першы зборнік Купалы „Жалейка". Аднак найбольшая колькасць крытычных выказванняў была звязана з паэмай Купалы „Адвечная песня". Выказванні гэтыя былі крайне адмоўнымі або крайне станоўчымі. Аўтар, які выступіў пад псеўданімам „Вл. С.", змясціў артыкул „Адвечная песня" („Наша ніва", 1910, № 38). Крытык залічаў „Адвечную песню" да найцікавейшых здабыткаў не толькі Купалы, але і ўсёй беларускай літаратуры. Паводле крытыка, паэзія Я. Купалы спрыяе крышталізацыі нацыянальнага твару ў беларусаў, развіццю іх асабовасці, іх уласнага „Я". „Убачыць у сябе чалавека, — пісаў Вл. С., — значыць ужо зрабіцца чалавекам, а зрабіць так, каб тое ж самае пачулі і другія, каб пачуў цэлы народ, моцна заціснены бяздольным жыццём, гэта ўсё роўна, як бы таму народу ўлажыць жывую чалавечую душу".

Дынамічную дыскусію аб творчасці Янкі Купалы і аб усёй беларускай літаратуры выклікаў артыкул вядомага польскага этнографа Зенона Пяткевіча. У артыкуле гэтым „Янка Купала: „Адвечная песня ў XII-ці праявах", змешчаным у польскай газеце „Праўда" (1910, № 39), Пяткевіч пісаў, што беларускі народ ніколі не меў сваёй літаратуры. Стварыла яе польская інтэлігенцыя. З гэтай прычыны ў беларускай літаратуры няма ні народнай душы, ні народнага жыцця.

Вельмі крытычна аднёсся Пяткевіч і да твора Я. Купалы „Адвечная песня". „Niestety, — пісаў Пяткевіч, — powstał utwór naiwnie melodramatyczny. Przez cały utwór przewija się smutek i łzy. Cały czas pokazuje niedolę i krzywdę chłopa, brak jakiegokolwiek optymizmu". Пяткевіч лічыў, што твор Купалы не сугучны з настроямі беларуса, якога характарызуе аптымізм і бадзёрасць. Творы, падобныя да „Адвечнай песні", могуць толькі пашкодзіць гэтаму прыроджанаму аптымізму беларусаў: Po cóż psuć źródło z którego płynie siła i hart? Nie ma sensu pod postacią utworów rymowanych przypominać o jego nędzy, niedoli. Czyż nie lepiej było zamiast tych łez sztucznych, dać mu broszurę popularną o nawozach sztucznych. Czy nie lepiej dać wskazówki, jak się organizuje kooperatywy chłopskie".

Артыкул Пяткевіча не мог не выклікаць палеміку з боку „Нашай нівы". У 38 нумары за 1910 г. быў змешчаны артыкул „З газет", у якім публіцыст „Нашай нівы" А. Бульба востра атакаваў З. Пяткевіча. Бульба даказваў, што Пяткевіч далучыўся да хору журналістаў з такіх рэакцыйных газет, як „Dziennik Wileński", „Крестьянин", „Goniec", „Земщина", якія не раз нападалі на беларускі рух. Беларускі публіцыст даводзіў, што Пяткевіч не разумее ні жыцця беларускага селяніна, ні яго патрэб. „Пан Пяткевіч выказвае поўнасцю незнаёмасць беларускага народа, яго душы, яго жыцця. Ён хоча, каб мужык не адчуваў свайго болю, каб кінуўся ў абойму таму, хто трымае бізун над ім..." Бульба востра выступіў супраць сцвярджэння Пяткевіча аб тым, што Купала гэта інтэлігент, які апранаецца ў пастушую вопратку. Бульба намякнуў таксама на шляхецкае паходжанне Пяткевіча і сказаў, што дзейнасць яго продкаў была прычынай галечы і няшчасцяў беларускага селяніна. „Так, пане Пяткевіч, — пісаў Бульба, — улезлі вы ў скуру паступовага дэмакрата і паўстаеце процi выцвеўшыя сялянскія вочы, каторыя сіляцца глянуць на сонца, — раіце выдаваць для беларуса адно толькі брашуркі аб штучным гною, а дзе ж той гной растрасаць?! Як жа шмат лепей зрабілі б вы, пане Пяткевіч, калі б пісалі б аб такіх рэчах, якія знаеце".

Пяткевіч быў глыбока ўражаны тонам артыкула Бульбы. Лічыў ён сябе прыяцелем беларускага народа і таму не мог згадзіцца з закідамі Бульбы. Ужо ў 46 нумары „Нашай нівы" за 1910 год Пяткевіч у рубрыцы „З лістоў да рэдакцыі" змясціў адказ Бульбу.

„На гэта я вам скажу, — піcaў Пятке-

## ТАК БЫВАЕ...

# ТРАГЕДЫЯ НІНЫ ВАКУЛЫ

Калі выходзіла замуж васемнаццацігадовая дзяўчына Ніна Нігерыш з калоніі Мялешкі (Беластоцкі павет) за Івана Грыцука з вёскі Валілы, калі яны разам сядзелі за вясельным сталом і „саладзілі горкую гарэлку“, калі прымалі ад вясельнікаў ад сэрца плывучыя пажаданні, — былі яны шчаслівыя, усхваляваныя, кахалі адзін другога, кахалі жыццё. Думалася ім тады, што хутка ў Беластоку, дзе Іван працаваў, атрымаюць кватэру, што супольна ствараць прыгожае сямейнае жыццё, што дачакаюцца дзяцей і будуць іх пяшчотна выхоўваць.

Гэтак, на жаль, не сталася.

Быў студзень 1947 года. Падземныя банды на Беласточчыне моцна давалі аб сабе знаць. Асабліва пасля выбараў, калі для мікалайчыкаўскай групы наступіў крах, падзямелле абнаглела і страшэнна помсцілася за сваю няўдачу членам партыі, членам органаў бяспекі, усім тым, хто актыўна змагаўся за ўмацаванне маладой народнай улады.

А Іван Грыцук працаваў у органах бяспекі. Пасля вяселля Ніна стала жыць у яго бацькоў у Валілах. З-за службовых абавязкаў, у першую нядзелю пасля шлюбу не мог прыехаць да сваёй маладой і каханай жонкі. Прыехаў надвячоркам у наступную нядзелю. І не паспеў налюбавацца Нінаю, не паспеў пагаварыць з бацькамі, не паспеў нават пасля дарогі пераесці, як раптоўна праз вокны пасыпаліся бандыцкія кулі. Перапалох ахапіў усіх. Не было часу ўцякаць, ды і не было куды. Іван пачаў адстрэльвацца. Бацька і маці былі ўжо раненыя. Ніна схавалася за печ. Кулі яе не кранулі, пасеклі толькі сукенку. Уцякаючы з месца злачынства, банда падпаліла хату, з якой Ніна паспела яшчэ выцягнуць нежывога ўжо мужа. Пасля самлела на вуліцы.

* ❊ *

Наступіў спакойны мірны час на Беласточчыне. Жыццё несла новыя справы, новыя клопаты, новыя абавязкі. Ніна, адхварэўшы перажытае, жыла далей са сваімі бацькамі і памагала ім гаспадарыць. І часта была, як раней, вясёлая і сардэчная, але разам з тым гарачая, выбуховая. Перажытая трагедыя пакінула на ёй свой след.

У 1952 годзе пасватаўся да Ніны Сцёпка Вакула з гэтай самай меляшкоўскай калоніі. Яна ізноў выйшла замуж.

У хаце жыў разам з імі бацька Сцёпкі, Міхась, якога Міхалкам звалі. Гаспадарка ў іх была вялікая — каля 30 га зямельных угоддзяў. І ўсё было, што патрэбна для жыцця на вёсцы, не было аднаго — згоды са свёкрам. Бывае ж часам так, што бацькі чапляюцца без дайпрычыны да сваіх нявестак, хочуць імі камандаваць. Бывае і так, што нявесткі не пераносяць бацькоў мужа. У Вакулаў было адно і другое. Непаразуменні давялі да падзелу хаты і гаспадаркі. З гэтага падзелу Ніна са Сцёпкам не былі задаволены, бо падзел, паводле іх думкі, не быў справядлівы. І так канфлікт нарастаў і паглыбляўся. Міхалка Вакула прадаў 4 га зямлі, а грошы, казалі людзі, прапіў. Пасля браў ад гаспадароў па 1000 зл. за выпас цялушак на сваіх зямельных угоддзях і гэтыя грошы таксама прызначаў на гарэлку. У 1967 годзе больш як 13 га зямлі Міхалка Вакула перадаў дзяржаве і думаў, што атрымае рэнту, але яе хапіла толькі на тое, каб аплаціць падаткі, якіх гадамі не аплачваў. Ужо тады Міхалка быў пасля цяжкога выпадку. Яго панеслі коні, ён упаў пад воз і пашкодзіў пазваночнік, так што ён ужо да канца свайго жыцця не мог хадзіць без кастылёў. Калецтва не перашкаджала яму далей піць гарэлку і сварыцца. Прычын да сваркі было больш як трэба. У апошнім часе, праўда, свёкар пачаў памаўчаваць, пачаў баяцца нявесткі. Ён стараўся не паказвацца ёй на вочы, калі яна, падпіўшы таксама, вярталася з гарадскога кірмашу. Тады Ніна не мінала ўжо крамы ў Меляшках, піла там піва і віно — мора па калені было ёй тады, а дамоў не спяшалася.

Вялікая нянавісць да бацькі пасялілася ў іх сэрцах з таго часу, калі бацька падаў на сына ў суд, каб атрымоўваць ад яго аліменты. Суд прысудзіў плаціць бацьку па 300 зл. у месяц. У Міхалкі Вакулы былі іншыя дзеці па памерлых дзвюх жонках. Жывуць і працуюць яны ў розных гарадах. Ад іх бацька не ўпамінаўся аліментаў. За гэта Сцёпка меў прэтэнзіі да яго і таму пачаткова аліментаў не плаціў. Але калі каморнік спісаў маёмасць, у яго прысутнасці Сцёпка вымушаны быў даць бацьку 3 800 зл.

❊

28 чэрвеня 1971 года нехта падвёз надвячоркам Міхалку Вакулу на калонію Мялешкі. Два тыдні не было яго ў сваёй хаце. Даплёўся да ўсадзьбы Івана Вакулы. Сеў на лавачку. Тут, на двары, застала яго ноч. Ніна якраз была ў гасцях у краўчыхі Веры Кучынскай у вёсцы Меляшкі. Парадачна там выпіўшы, пасля дванаццатай гадзіны ночы вярталася яна дамоў. У якім была настроі, што думала, цяжка сказаць. На панадворку Івана Вакулы ўбачыла свёкра, і тады схапіў яе прыступ злосці. „Узяла мяне вялікая крыўда да яго. Не памятаю, што рабіла. Падышла я да яго, а што гаварыла, не ведаю. Я хацела яго толькі ўдарыць. Не памятаю, што тады мне падпала пад рукі, ці кій, ці мо кастыль старога, і я яго ўдарыла, а колькі разоў, не памятаю“, — гэтак сцвярджала на судзе Ніна.

Ішоў тады густы дождж. У суседкі плакала дзіця. Яна чула нейкі крык. Глянула ў вакно, па якім, быццам слёзы, цяклі вялікія кроплі дажджу, і, нічога не ўбачыўшы, далей калыхала свайго малога.

Ніна, даўшы свёкру „навучку“, вярнулася дамоў, разаслала ложак і легла спаць. Муж яе спаў разам з дванаццацігадовай дачкой Зосяй. Раненька Ніна пайшла даіць кароў, у той час нехта прыбег з весткаю, што бацька Сцёпкі ляжыць нежывы ў агародчыку Івана Вакулы. Устрывожаны Сцёпка хутка пабег туды разам са сваім сынам, тады яшчэ ён не ведаў, што яго жонка забіла яго роднага бацьку. Так закончыўся дзевятнаццацігадовы сямейны канфлікт Вакулаў.

Міхалка Вакула ляжыць на могілках. Яго нявестка Ніна сядзіць у турме, яе старэнькія бацькі на кожны ўспамін аб дачцы абліваюцца слязьмі, Сцёпка са сваімі дзецьмі (дзеці найбольш пакрыўджаныя) без гаспадыні мучыцца на гаспадарцы. Страшна ён перажыў вялікае няшчасце. „Як ніхто не бачыць, я многа плачу. Што ты нарабіла сабе і нам, і ўсёй радні?“ — пісаў Сцёпка да Ніны ў адным з лістаў у турму.

**Міхась Хмялеўскі**

---

віч, — што яшчэ А. Бульба не ўмеў чытаць і пісаць, можа быў маленькім хлапцом, калі я ўжо напісаў расправу аб беларусах, сабраў дзвесце песень і, мабыць, добра я знаў гэты народ і добра з ім зжыўся, калі мне дзяўчаты і хлопцы дыхтавалі песні, а старыя людзі і знахары адкрылі ўсе замаўленні“.

Далей Пяткевіч даказваў, што на працягу многіх гадоў пазнаваў спецыфіку беларускага жыцця, што добра запазнаўся з нядоляй і слязьмі беларускага селяніна. Пяткевіч прыгадваў, што гэта ніхто іншы, як ён напісаў аповесць „Dwa szczęścia”, у якой паказваў жыццё беларускага народа.

„Еслі я сказаў, што няма яшчэ беларускай літаратуры, то значыць, што няма мінуўшчыны, але я веру ў будучыню жывога народу. Беларуская літаратура яшчэ творыцца, расцё з гэтага народу“.

У канцы артыкула Пяткевіч гаварыў аб сваёй ролі як рэдактара „Віленскай газеты“, якая паслядоўна бараніла беларусаў. Польскі крытык папракаў Бульбу за тон яго артыкула, за „брызганне чалавеку балотам у вочы“.

Бульба, пазнаёміўшыся з рэплікай Пяткевіча, зразумела, не мог маўчаць. Апублікаваў ён новы артыкул у „Нашай ніве“.

---

## ФАЛЬКЛОР

### СЕНАКОСНАЯ

*Moderato*

Бел мо-ло-дэць се-но ко-сіт, Бел мо-ло-дэць се-но ко-сіт, Бе-ла вдо-ва ес-ты но-сіт

*Бел молодэць сено косіт,*
*Бел молодэць сено косіт,*
*Бела вдова есты носіт.*
*Нэсла, нэсла, нэ донэсла,*
*Нэсла, нэсла, нэ донэсла.*
*Край дунаю поставіла,*
*Край дунаю поставіла,*
*Край дунаю поставіла,*
*Бела сына породіла.*
*Породівшы, говорыла,*
*Породівшы, говорыла:*
*— Чы мне тэбэ годоваті?*
*Чы мне тэбэ годоваті,*
*Чы мне тэбэ годоваті,*
*Чы мне тэбэ утопіті?*
*Годоваті — од люді смех,*
*Годоваті — од люді смех.*
*Утопіті — од Бога грэх.*

*Бел молодэць тое чуе,*
*Бел молодэць тое чуе.*
*Кінуў косу на покосу,*
*Кінуў косу на покосу.*
*Кінуў косу на покосу,*
*Сам прыскочыў до вдовонькі:*
*— Чы ты, вдово, ошалела,*
*Чы ты, вдово, ошалела!*
*Як нас маті годовала,*
*Як нас маті годовала,*
*Як нас маті годовала,*
*Тэмной ночкі нэдоспала.*
*Тэмной ночкі нэдоспала,*
*Тэмной ночкі нэдоспала,*
*Ясной свечы нэ згашала.*
*Так мы будэм годоваті,*
*Так мы будэм годоваті,*
*Потешэнькі дожыдаті.*

Ад Сакоўскай Веры, 1925 года нараджэння і Гацуты Веры, 1926 года нараджэння, — абедзве з вёскі Новакорніна Гайнаўскага павету — запісаў 9 мая 1973 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

---

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# ДЫРЭКТАР

Настаўніцкую працу распачаў у пяцідзесятых гадах пасля заканчэння агульнаадукацыйнага ліцэя. Працаваў у вясковых школах Бельскага павету, а аднačасова завочна паглыбляў кваліфікацыі настаўніка. Затым на працягу некалькіх год кантраляваў працу пачатковых школ, працуючы інспектарам у аддзеле асветы і культуры.

Ян Суліма — сёння дырэктар пачатковай школы № 3 у Бельску Падляшскім (беларускай). Перайшоў з аддзела асветы таму, што любіць канкрэтную працу і канкрэтныя вынікі, з'яўляецца ініцыятарам і любіць быць сам у цэнтры таго, што робіцца ў школе. Павятовыя ўлады накіравалі яго ў пачатковую „тройку“. Работы было шмат. Трэба было ўстабілізаваць кадры, наладзіць супрацоўніцтва з ліцэем, з якім знаходзяцца па сённяшні дзень у адным будынку.

З супрацоўніцтвам было па-рознаму, але зараз, як сцвярджаюць дырэктары абедзвюх школ, вельмі добрае. Дырэктар ліцэя Аляксей Карпюк гаворыць, што добрыя вынікі навучання ў ліцэі — у многім заслуга добра падрыхтаваных выпускнікоў пачатковай школы № 3. Кожны год ліцэй атрымлівае з гэтай школы каля 1/3 агульнага ліку вучняў. Гэтая моладзь вельмі актыўная і надае тон жыццю школы.

Пра дырэктара Я. Суліму гавораць, што гэта чалавек, які ў працу школы ўкладае сваё сэрца. Жыве школай і для школы. Дбае пра кожнага вучня: і пра найлепшага і пра адстаючага. Знае кожнага вучня сваёй больш чым паўтысячнай школы, назаве іх прозвішчы і зможа кожнаму даць кароткую характарыстыку. Цікавіцца лёсам сваіх выпускнікоў у сярэдніх школах: як яны вучацца ў першым класе і як здаюць матуру.



**Дырэктар пачатковай школы № 3 — Ян Суліма на рабоце...**

Дбае пра спорт у школе. Помню адзін такі выпадак. Вечарам сядзеў я ў знаёмых, сын якіх вучыўся ў Сулімы. Званок. У хату ўваходзіць Суліма і просіць, каб Юрэк збегаў да іншага вучня і даведаўся, як каманда з яго школы разыграла матч у Гайнаўцы.

— Мушу даведацца, — гаварыў, — бо інакш не засну.

Суліма зрабіў багатым супрацоўніцтва з бацькамі. „Вывядоўкі“ ў яго школе — гэта не проста даведка аб ацэнках вучня. Тут бацька атрымлівае ўсебаковыя веды аб вучню, аб яго паводзінах, аб працы школы і яе дыдактычна-выхаваўчых планах. Усё гэта абаперта на канкрэтных прыкладах. Таму карыстаецца вялікім аўтарытэтам у бацькоў.

Як гавораць настаўнікі, іх дырэктар многа вымагае ад настаўнікаў і бацькоў. Але ад сябе таксама многа вымагае.

Мы ўжо пісалі, што за дасягненні дырэктар Ян Суліма атрымаў узнагароду міністра асветы і выхавання. Гэта высокая ўзнагарода. Але ўзнагародай з'яўляецца і тое, што людзі ахвотна пасылаюць сюды сваіх дзяцей і робяць усё, каб іх дзіця паступіла ў „тройку“. А на гэта трэба заслужыць...

Тэкст і фота **А. Карпюка**



*Май на пасецы.* *Фота Я. Цялушэцкага*



Від на Гродзенскі хімічны камбінат імя Сяргея Прытыцкага.

**Карэспандэнцыя з Мінска**

ВЯЛІКАЯ ХІМІЯ БЕЛАРУСІ

# ТРЫ КІТЫ СУЧАСНАЙ АГРАХІМІІ

Славуты савецкі вучоны Дзмітрый Пранішнікаў сказаў, што калій, азот і фосфар — гэта тры кіты сучаснай аграхіміі. Шырокае прымяненне мінеральных угнаенняў, казаў ён, раўназначна таму, што з акіяна раптам узнімаецца зусім першабытны, ніколі не паханы шосты кантынент, які дапаможа чалавецтву ў вырашэнні харчовай праблемы.

Да нядаўняга часу рэспубліка атрымоўвала ўсе мінеральныя ўгнаенні з іншых раёнаў краіны. Калійныя солі, напрыклад, даводзілася завозіць за дзве тысячы кіламетраў, аж з Урала.

Цяпер у рэспубліцы ёсць усе „тры кіты“ аграхіміі.

Хутка пасля вайны геолагі, развеяўшы міф аб бесперспектыўнасці беларускіх нетраў, адкрылі ў 150-ці кіламетрах ад Мінска унікальныя паклады сільвініту — мінерала, багатага каліем. На базе гэтага прыроднага скарбу быў пабудаваны Першы Салігорскі калійны камбінат, праектнай магутнасцю ў 2.400.000 тон стандартных угнаенняў у год. У 1965 годзе ён выдаў першую прадукцыю. За ім паследавалі Другі і Трэці камбінаты. Адначасова з імі ў адкрытым стэпе на мяжы Беларускага Палесся, вырас новы горад шахцёраў і хімікаў — Салігорск. Яго насельніцтва складае ўжо каля 50 тысяч чалавек, а да пачатку новага стагоддзя дасягне 100 тысяч.

Малады горад стаў цэнтрам аднаго з буйнейшых раёнаў сусветнай калійнай прамысловасці. Цяпер салігорскія камбінаты даюць каля паловы ўсесаюзнай вытворчасці калійных угнаенняў. У канцы дзевятай пяцігодкі (1975 год) сумарная магутнасць камбінатаў — яны ўваходзяць у аб'яднанне „Беларускалій“ — складзе восем мільёнаў тон.

Застаецца сказаць аб астатніх двух „кітах“.

Сотні тысяч тон азотных угнаенняў селітры, мачавіны, аміячнай вады выпускае азотна-тукавая вытворчасць хімічнага камбіната ў горадзе Гродна. Сыравінай для яго служыць азот атмасферы і прыродны газ, які паступае з Украіны.

У мінулай пяцігодцы ўвайшоў у строй адзін з буйнейшых у краіне завод падвойнага суперфасфата ў Гомелі, на паўднёвым усходзе рэспублікі. Ён атрымлівае сыравіну з Кольскага паўвострава (апатыты) і з Украіны (сера).

Цяпер на долю Беларусі (яе тэрыторыя складае менш аднаго працэнта тэрыторыі і каля 4 працэнтаў насельніцтва Савецкага Саюза) прыпадае 13 працэнтаў усесаюзнай вытворчасці мінеральных угнаенняў. За апошнія гады Савецкі Саюз, як вядома, дасягнуў значнага росту ўраджайнасці, пераадолеўшы „бар'ер“, які ўтрымліваўся даволі доўга. У самой Беларусі ўраджаі зернавых павялічыліся за няпоўныя пяць гадоў у два з паловай-тры разы. Вялікая заслуга ў гэтым належыць беларускай хіміі.

**Барыс Усцінаў**

## Куток практычных ведаў




### Летнія сукенкі

Летнія сукенкі, як заўсёды, бываюць вельмі розныя. Што ж можна параіць нашым чытачкам, у асноўным вясковым дзяўчатам і гаспадыням на гэты сезон?



Можа варта было б пашыць папулярную шміз'ерку. Такая сукенка амаль ніколі не выходзіць з моды, а дзякуючы яе простаму, класічнаму фасону, у гэтакай сукенцы кожная жанчына адчувае сябе добра і свабодна.

Шміз'ерка падыходзіць на розныя моманты нашага жыцця. Усё залежыць ад таго, з якога матэрыялу яна пашыта. Калі мы пашыем яе з шоўку, то будзе гэта элегантная сукенка, у якой можна пайсці ў госці, на забаву ці ў кіно. Калі ж мы пашыем яе з нейкага палатна, саціна ці папліна, то можна будзе яе апранаць ад рана да вечара. Такую сукенку варта пашыць жанчынам, якія, напрыклад, даязджаюць на работу ў суседняе мястэчка, настаўніцам, ну і ўсім маладым дзяўчатам.



Тыповая шміз'ерка наогул змянілася няшмат. У гэтым годзе характэрнай яе рысай з'яўляецца пашыраная спаднічка. Можа яна быць з фалдамі, зашытымі ад паловы бёдраў, або мець спераду адну падвойную контрафалду, а можа быць таксама ўся спаднічка плісаваная. Сённяшнія шміз'еркі найчасцей сцягваюць у таліі поясам. Як вядома, класічная шміз'ерка шыецца з кашулёвым каўняром, а рукавы заўсёды заканчваюцца манжэтам, зашпіленым на гузік, альбо на запінкі, як пры мужчынскіх кашулях.

У апошні час шміз'еркі шыюць таксама з кароткімі рукавамі, сярод якіх найбольш моднымі з'яўляюцца рукавы да локця. Модным дадаткам да шміз'ерак з'яўляюцца таксама хустачкі, завязаныя на шыі і ўложаныя ў дэкальтэ сукенкі. Хто любіць, можа насіць гэтую хустачку з вылажанымі на верх канцамі.

**Сяброўка**




Крэбс устаў з-за стала і адсунуў штору ля вялікай карты Усходняга фронту. Ламаная чырвоная лінія пачыналася ля Барэнцава мора. На поўдні яна выступае крутой падковай.

Лінія фронту. Наўрад ці хто-небудзь у тую восень 1944 года мог бы падлічыць, на колькіх картах яна была адзначана. Але ўсе яны ў тую восень расказвалі аб адным. Калі б маглі ажыць умоўныя абазначэнні на гэтых картах, то можна было б убачыць, як у Барэнцавым моры, збіраючы намёрзлы за ноч на палубе лёд, ішлі ў атаку на сваіх караблях матросы савецкага Паўночнага флоту і як скрозь балоты Палесся, цягнучы на плячах цяжкія гарматы, ішлі з баямі савецкія салдаты беларускіх франтоў. Як пад сонцам паўднёвых стэпаў горад за горадам адбівалі ў ворага савецкія танкісты. Выгінаючыся пад ударамі чырвоных стрэл, лінія фронту адпаўзла на захад. Савецкая Армія вызваляла ад ворага апошнія дзесяткі кіламетраў роднай зямлі.

Але быў яшчэ і другі фронт, пра які не пісалі ў газетах. Яго лінію немагчыма было ўбачыць. Баі на гэтым фронце не грымелі выбухамі бомбаў і залпамі артылерыі. Бітвы ішлі ў ледзь улоўным трэску і шораху начнога радыёэфіру, у прыглушаным гуле адзінокіх самалётаў, якія на вялікай вышыні абыходзілі ваенныя аб'екты і вялікія гарады. Выстралы і выбухі часам гучалі і тут, але тут не яны былі рашаючымі. Вельмі часта невялікі шматок паперы са слупікам лічбаў аказваўся мацнейшым за атаку танкавай дывізіі, а два словы, кінутыя напаўголасу, вырашалі лёс армій. Генерал Крэбс рабіў цяпер стаўку іменна на гэты фронт.

Цыклон — так называюць метэаролагі зону нізкага атмасфернага ціску. Бясшумна рухаючыся над зямлёй, цыклоны нясуць навальніцы і буры. Гэта слова было выбрана для таго, каб абазначыць сакрэтны план дыверсійных аперацый у тыле савецкіх войск.

Яшчэ ў пачатку лета 1944 года генерал Крэбс абмяркоўваў план „Цыклон“ разам з яго аўтарамі — генералам Рэйнхардам Геленам і зоркай гітлераўскага шпіянажу і дыверсій Ота Скарцэні. Элегантны, падобны на маладога адваката Гелен і двухметровы, з тварам ссечаным шрамамі, бамбіза Скарцэні разгарнулі тады перад Крэбсам спакуслівы малюнак: акуратна запланаваныя забойствы, падпальванні, узрывы мастоў і чыгуначных вузлоў, распаўсюджанне правакацыйных чутак. Усё гэта было зліта ў адно.

Адборныя дыверсійныя атрады абвера павінны пранікнуць у тыл савецкіх войск на ўсім працягу фронту. Яны нанясуць удар па камунікацыях, пасеюць у тыле тэрор і паніку.

З таго часу над дэталёвай распрацоўкай гэтага плана старанна працавалі і генеральны штаб сухапутных сіл (ОКХ), і ваенная разведка абвер, і служба бяспекі СД. Цяпер настаў час дзейнасці.

Падышоўшы ўшчыльную да карты, Крэбс углядаўся ў раён, які ляжаў глыбока за лініяй фронту, на яго паўднёвым участку передгор'я Карпат. Тут „Цыклон“ нанясе свой першы ўдар. Вось ля гэтага пункта з неймаверна цяжкай славянскай назвай ужо сабрана першая баявая група абвера. Цяпер асабліва важна, каб першыя дыверсіі адбіліся іменна на поўдні.

„Паглядзім, што вы скажаце, пан фельдмаршал, — падумаў Крэбс, — калі „Цыклон“ пройдзе для пачатку па паўднёвых тылах рускіх. Яны не змогуць наступаць. І ўсе вашы прагнозы не спраўдзяцца. А там — асенняе бездарожжа, зіма. Галоўнае — выйграць час для перагавораў з амерыканцамі. Саюзнікі самі не вельмі ў захапленні ад рускіх перамог на „фронце“.

Генерал прыпомніў усё, што яму было вядома пра групу „Цыклон—Поўдзень“. У яе, мяркуючы па дакладах Мельцара, увайшлі выдатныя разведчыкі, якія маюць вялікі вопыт тайнай вайны ў Расіі. Кіраўніка яе рэкамендаваў асабіста генерал Гелен. Цяпер група чакае толькі камандзіра і загаду дзейнасці. Так, час настаў, пара пачынаць аперацыю!

Крэбс рэзкім рыўком закрыў шторай карту.

Зняўшы тэлефонную трубку, ён набраў нумар аддзела „Заграніца“ абвера. Да тэлефона падышоў усюдыісны Клец.

— Слухаю вас, пан генерал, — адказаў ён. — Падпалкоўніка Мельцара цяпер няма, але я таксама ў курсе ўсіх спраў.

— Далажыце, як ідзе падрыхтоўка плана „Цыклон-Поўдзень“?

— Мне як прадстаўніку службы бяспекі вядома, пан генерал, што камандзір групы „Цыклон-Поўдзень“ капітан Шварцбрук гадзіну таму назад прыбыў ужо ў Берлін. Паслязаўтра, як гэта прадугледжана планам, ён будзе накіраваны за лінію фронту. Мне вядома таксама, пан генерал, што гэта аперацыя праводзіцца сумесна. Дакладней — аб-

# ПРЫЕМНАГА АПЕТЫТУ

— Гэта вы папрасілі паклікаць шэф-повара!
— Так, я.
— Па якому пытанню?
— Сядайце, калі ласка.
— Чым-небудзь не задаволены?..
— Ды як вам сказаць?..
— Гаварыце, як хочаце. Толькі хутчэй.
— У вас няма часу?
— У мяне ёсць план! Дзеля чаго вы мяне клікалі?
— Зірніце сюды. Што гэта?
— Бульба смажаная.
— А больш уважліва зірніце.
— І што я там павінен убачыць?
— Тое, чаго тут няма.
— Не тлуміце мне галавы — кажыце, у чым справа?
— Справа ў тым, што мне падалі бульбу, а вось мяса чамусьці засталося ў вас на кухні.
— І гэта вас не задавальняе?
— Вы правільна мяне зразумелі.
— Але чаму, дазвольце спытаць?
— Хоць бы таму, што ў меню напісана: „Бульба, смажаная з мясам".
— А вы можа думаеце, што бульба смажаная без мяса?
— Ну, чаму ж. Гэтага я не магу сцвярджаць. Пах мяса тут, вядома, прысутнічае.
— Тады чаго ж вы хочаце?
— Каб было і самое мяса.
— На якой падставе?
— На падставе меню, падпісанага вамі ж.
— Дзівак-чалавек! Як гэта вы не зразумееце такой простай рэчы? Трэба ж хоць трохі разбірацца ў тым, што чытаеце. Хіба ў меню напісана, што да бульбы смажанай з мясам трэба абавязкова падаваць яшчэ і мяса? Пакажыце, дзе такое напісана?
— Ды... Я... Ды...
— Вось бачыце, і няма чаго вам сказаць. Толькі час у мяне дарэмна адымаеце і план не дае выконваць. Ешце тое, што падалі. Прыемнага апетыту!

**А. Салаўянчык**

*Ахоўнік прыроды.*

НЯМА ЛІХА БЕЗ ДАБРА

— Ліса пеўня задрала, — бядуе гаспадыня.
— Нарэшце грады будуць у парадку, — абрадаваўся гаспадар.

АДЗНАКІ

Джон даваў шылінг свайму сыну Дзіку кожны раз, калі той прыносіў са школы добрыя адзнакі. Такія адзнакі ў Дзіка былі заўсёды. Нарэшце, Джон спытаў падазрона:
— Дзік, а ці не дзеліш ты выпадкова гэтыя грошы з настаўнікам?

# НІЎКА

*Усе маладажоны пачынаюць аднолькава...*

НЕ НАДТА ДОБРЫ

— Як табе спадабаўся канцэрт? — спыталі ў кабеты, якой першы раз у жыцці давялося паглядзець выступленне прафесіянальных артыстаў.
— Не надта добры, — адказала тая. — Артыстам давodзілася па два-тры разы выконваць адны і тыя ж нумары.

ПІЛЬНЫ ВАРТАВЫ

Раніца. Каля сельскага магазіна, на ганачку, спіць вартаўнік. Прыйшоў загадчык магазіна на працу і будзіць вартаўніка:
— Макар, уставай, твая варта ўжо скончылася.
Вартаўнік працірае вочы, яшчэ не зусім прачнуўшыся, здзіўляецца:
— Як скончылася? Толькі ж нядаўна была цэлая паўлітэрка...

НЕ ХАПАЕ ВЫТРЫМКІ

— Вы назіраеце ўжо амаль тры гадзіны, як я лаўлю рыбу. Ці не лепш было б паспрабаваць лавіць яе самому?
— У мяне не хапае вытрымкі.

ПРЫЧЫНА

Бацька перагортвае дзённік сына і ківае галавой. Сын, які стаіць побач, гаворыць:
— Не здзіўляйся, тата. Гэта проста дрэнная спадчыннасць. Вось паглядзі, я знайшоў твой дзённік за чацвёрты клас.

ГУК І ТЭМПЕРАТУРА

Алёнка аднойчы сказала маці:
— Мама, а ты ведаеш, што гук павышае тэмпературу?
— А хто гэта сказаў?
— Ніхто не казаў. Тата на мяне моцна накрычаў, што аж успацела.

## Выйшаў з моды

Я — адсталы, выйшаў з моды,
Стаў нібыта лішні тут,
Бо спазняюся на работу
Перастаў на пяць мінут.

Аніхто з былых кампаній,
Як раней, не падміргне.
Толькі ўсе са спачуваннем
Паглядаюць на мяне.

Што рабіць цяпер — не знаю.
Як пазбавіцца пакут?
Мне для шчасця не хапае
Толькі нейкіх пяць мінут.

**Генадзь Кляўко**

**...Падглядаючы ў замочную шчыліну, ён не мог пазбавіцца адчування, што нехта і за ім сочыць гэтак сама.**

**...Ён паказваў калекцыю каменняў, якія кідалі ў яго агарод.**

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Галіны Языкавай, Хрысціны Мялешка, Міраславы Грушоўскай і Ірэны Банцарэвіч з Гарадка Беластоцкага павету змяшчаем песню з рэпертуару Эдварда Гулевіча

## NIE SĄDŹ MNIE

**Ty co dzień i od święta,
Ty bieg przyśpieszasz tętna,
Ty ze mnie nie kontenta
Chcesz zmienić świat,
Ja hardy, nieudany,
Ja wściekle zakochany,
Ja tobie nie poddany.**

**Nie sądź mnie
Wedle moich wad
Nie sądź mnie
Jak osądza świat.
Pomyśl dobrze czy źle,
Lecz nie sądź mnie.
Nie sądź mnie
Jak surowy sąd,
Pomyśl, że nim
Odejdę stąd
Może tobie i mnie
Nie będzie źle.**

ТОЛЬКІ

Кастусь прыйшоў да гадзіннікавага майстра і папрасіў адрамантаваць насценны гадзіннік. Калі майстар разгарнуў пададзены яму пакунак, то ўбачыў толькі маятнік.
— А дзе ж гадзіннік?
— Гадзіннік у поўным парадку. Толькі вось маятнік стаіць...

## МІНІБАЙКІ

ХТО ВЫШЭЙ

Сабрала Жаба насякомых і кажа:
— А ну, браткі, хто вышэй усіх скочыць?
Вышэй усіх скочыў Конік. Яго яна і з'ела.
Мараль: а ты не скачы вышэй начальства.

КАРАСЬ

Карась трапіў у суп па ўласнаму жаданню. Не верыце? А хто ў гэта верыць?

*М. Азаў, Ул. Ціхвінскі*

ГАСПАДАР СВАЙГО СЛОВА

— Мікола! — жонка наўздагон. — Малака там прыхапі!
Мікола спыняецца перад самусенькімі дзвярыма.
— Ды... ведаеш...
— Што?
— Памяць у мяне слабенькая.
— Ну, як ты можаш гаварыць гэтакае? — успыхвае жонка. — Ды пасля футболу ўсё роўна ж абмываць сваё паражэнне ці перамогу заскочыш у гастраном?
— Ну?
— Дык гарэлкі, значыць, ты не забудзеш?
— Прыраўняла!
Успышка пагражае выбухам:
— Словам, малака!
— Ды я ж табе сказаў...
— Нічога не чула. Купіш.
— Забуду.
— Не забудзеш!
— Я ж па-людску сказаў. — Мікола чалапае да дзвярэй, — забуду! А яна „не"! Ды што ж я, не гаспадар свайму слову?!

**В. Яндзябера**

## ГУМАР З

ПАЧАСТАВАЎ

Да дзядзькі Якіма прыйшла пляменніца, каб памагчы ў гаспадарцы. Працавала цэлы дзень. Пад вечар дзядзька Якім і кажа:
— Дзякую табе, дзяцінка, што памагла мне. Даў бы табе варэнікаў з бульбаю, ды бяда — накрыўка прысохла да міскі.

## КУРЁЗЫ

ДЗЯЛКІ СКУПІЛІ ВОСТРАЎ

У прасторах Карыбскага мора знаходзіцца невялікі калумбійскі астравок Сан-Андрэс. Яго плошча складае ўсяго дваццаць пяць квадратных кіламетраў. Там няма ні нафты, ні золата, ні іншых карысных выкапняў. Але тым не менш ён прыцягнуў да сябе ўвагу дзялкоў з ЗША. Іх спакусілі цудоўны марскі клімат, аксамітавыя пляжы і густая трапічная расліннасць вострава. І вось туды адзін за адным сталі прыбываць амерыканскія скупшчыкі зямлі. Не паспелі калумбійскія ўлады апамятацца, як амаль увесь астравок аказаўся ў руках 288 іншаземцаў.

КАЛЕКЦЫЯНЕРЫ БЫВАЮЦЬ РОЗНЫЯ

Што толькі не калекцыяніруюць людзі — маркі і цацачныя аўтамабілі, этыкеткі ад бутэлек і трамвайныя білеты... У Балгарыі дзве незвычайныя калекцыі знаходзяцца ў Габрава, славутым сваімі фестывалямі гумару. Адна з калекцый належыць настаўніку матэматыкі І. Папіванаву і складаецца з 1.200 сурвэтак з многіх краін, другая — юрысту В. Дзянкаву — уладальніку калекцыі алоўкаў з 34 краін. Самы стары з іх выраблены ў 1877 годзе. Гаваровае месца ў калекцыі належыць алоўку чэхаславацкай фірмы „Кох-і-нор", даўжыня якога адзін метр.

ІДЗІЦЕ ДА НАС РАСПРАНУТЫЯ!

У вялікім універмагу гатовага адзення ў Клілендзе (ЗША) прымяняецца новы метад рэкламы, цесна звязаны з норавамі гэтага горада. Ля ўваходу ў магазін вісіць плакат: „Калі вас у нашым раёне распранулі з ног да галавы, не засмучайцеся! У нас вы апранецеся з галавы да ног".

## Смяйцеся з намі

*Чым ніжэй веліканы, тым вышэй карлікі.*